Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 31 (82). Вільня, Субота 2 Красавіка 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Дыплёматычны флірт.

Каля двух гадоў таму назад, па дарозе з Масквы ў Бэрлін, затрымаўся ў Варшаве радавы камісар замежных спраў Чычэрын. У той час уся польская прэса не магла нацешыцца з факту візыты кіраўніка заграхічнай палітыкі СССР і на гэтай візыце будавала розныя пажаданыя для Польшчы пляны. Тагочасныя банкеты і прамовы азадачылі на'т і тую саветафільную частку грамадзян, якая ўсе свае прадбачаньні асноўвала на помачы радавай улады. Тымчасам мінаюць ужо два гады, а адносіны між Польшчаю і СССР астаюцца тыя самыя, увесь час непрыязныя. Факты красамоўней гавораць за сябе чымся мовы. Салодкія прамовы Чычэрына і міністра Скржынскага, якія ў свой час былі сказаны на банкетах, асталіся толькі прамовамі, бо жыцьцё выказала іхную нерэальнасьць. Пытаньне: дык навошта-ж была тая візыта Чычэрына і навошта былі тыя прамовы, якія не пайшлі па дарозе рэалізацыі? Адказ зусім ясны. У гэтым часе Англія падала праект міжнародных дагавораў, якія пасьля і былі зрэалізаваны ў Лёкарно. Лёкарнаўскія дагаворы галоўнай сваей мэтай хацелі залажыць саюз вялікіх дзяржаваў Заходняй Эўропы, уключаючы ў гэты саюз і Нямеччыну і скіраваць яго процi СССР.

Нічога дзіўнага, што Саветы хацелі памяшаць заключэньню такога саюзу і затым Чычэрын так соладка гаварыў у Варшаве. Салодкія прамовы Чычэрына былі таксама пажаданы і для Польшчы; польскі міністар замежных спраў таксама разьліваўся ў ветлівых словах аб магчымасьці польска-савецкага паразуменьня, бо разумеў, што праз гэта Польшча ўмацоўвала сваё становішча пры будучых дагаворах у Лёкарно.

Час выказаў, што праектаваныя Англіяй дагаворы былі падпісаны ў Лёкарно, бо большыя заходня-эўрапэйскія дзяржавы дагаварыліся між сабой. Але гэтыя дагаворы не аказаліся зусім рэальнымі, бо ня ўсе дзяржавы падпісалі іх. Частка дзяржаваў ня брала ўдзелу ў гэтых дагаворах, а затым і не зьяўляецца прыхільніцай іх. Зразумелі гэта добра Саветы і затым, апіраючыся яшчэ на іншых нязгодах паміж сябрамі Лігі Народаў (напр. Польшча і Літва), пачалі самі заключаць дагаворы з паасобнымі дзяржавамі, на якіх Ліга Народаў не зварачвала належнай увагі. Першы дагавор радавая ўлада заключыла з Літвой, а апошнімі днямі быў заключаны і другі такі дагавор з Латвіяй. Дагаворы паміж паасобнымі сябрамі Лігі Народаў (Літва і Латвія—сябры Л. Н.) з СССР, які не зьяўляецца сябром Лігі Народаў выклікалі новую сытуацыю ў міжнароднай палітыцы. Найбольш занепакоілась Польшча. Польшча зразумела, што процi Лёкарнаўскіх дагавораў паўстаюць дагаворы паасобных дзяржаваў з СССР, адною з наймагутнейшых суседаў Польшчы і што гэтыя дагаворы могуць перадусім пашкодзіць Польшчы.

У сувязі з гэтым польская загранічная палітыка пачала скіроўвацца на ўсход. Польскі ўрад пачынае рабіць захады перад урадам СССР аб заключэньні трактату аб ненападаньні адзін на аднаго і, пасьля і аб заключэньні гандлёвага трактату. Трудна цяпер сказаць, чым кончыцца цяперашні дыплёматычны флірт між Польшчаю і Саветамі, аднак трэба ведаць, што гэта толькі флірт, бо ніводная з гэтых дзяржаваў зусім ня імкнецца да запраўднай згоды. Усялякія дагаворы між цяперашняй Польшчай і Саветамі будуць толькі дагаворамі на паперы, ня будуць мець рэальнага значэньня ў сэнсе лёяльнага выкананьня іх.

Незалежна ад ідэолёгічных кантрастаў паміж польскай і савецкай уладай, трэба ведаць, што ўзьнікае яшчэ беларускае пытаньне. Як першае так і другое будзе на перашкодзе да трывалых і прыязных адносінаў паміж СССР і Польшчаю.

## Прамова сэн. Багдановіча

**ў Сэнаце 10.III с. г. пры дыскусыі над бюджэтам Міністэрства Рэлігійных Вызнаньняў.**

(Канчатак).

Ужо не адзін раз чуў я з гэтай трыбуны з вуснаў маіх калегаў Палякаў — ссылкі на любімага мною расейскага філёзофа і тэолёга Салаўёва. Аднак-жа прыходзіцца дзівіцца, што ссылаецеся на яго для навучаньня іншых, а не сябе. Некалі гэты бяспрэчна расейскі патрыёт, у лепшым значэньні гэтага слова, гаварыў аб Расеі: „ходзіць не аб іствованьне Расеі, але-ж аб дастойнае яе іствованьне" (як гэта ў сучаснасьці разумеюць Расейцы). Мне дык здаецца, што гэтую меру трэба тасаваць і адносна Польшчы польскім патрыётам. Дзеля таго, што дзьве меркі ў палітыцы — адну для сябе, а другую для іншых, той самы патрыёт-філёзоф, як вядома, называе „готэнтотаўскай маральлю". Годнае пашаны іствованьне Польшчы адзначае яе канстытуцыя, у якой рэлігійнае роўнаўпраўненьне займае не апошняе месца. Але-ж у Польшчы шануецца толькі мёртвая канстытуцыя 1791 году, якая нічым не абавязуе, а жывая сучасная шануецца не надта.

Цяпер пераходжу да даных цыфровых бюджэту. Не адзін раз ужо з гэтае трыбуны я высьняў, што тая старана царкоўнага жыцьця, памойму ёсьць найменей важнаю. Я ня бачу карысьці ў гэтых матэрыяльных дабротах, калі самы царкоўны лад пабудаваны ёсьць на неадпаведных падставах і не дае магчымасьці царкве як сьлед скарыстаць з гэтых дабрадзействаў. Уважаючы за найлепшае царкоўнае дабро яе ўнутраную бязумоўную свабоду і кананічны саборны лад, я, каб гэта ад мяне залежала, з радасьцю адказаўся-б ад усякіх датацыяў, абы толькі ў гэты спосаб можна было здабыць тую свабоду і той лад. Ці пры сучасным ладзе ў царкве, калі царкоўнае грамадзянства ёсьць зусім адсунута ад царкоўных справаў, калі Сынод не дае ніякае справаздачы нікаму ў гэтых сродках, якімі апэруе, калі мітрапаліт, нібы аўтакефальны, фактычна залежыць ад свайго неадказнага атачэньня, таксама не дае справаздачы і Сыноду, дык ці-ж можам даведацца, аб тым, колькі ёсьць гэтых сродкаў і куды яны ідуць. Ці можа быць пры гэтакіх умовах гутарка аб нейкім грамадзка-царкоўным кантролі? Але-ж, пакуль гэтакі лад істнуе і народныя грошы ідуць нібы на царкоўныя справы, мусім крытычна адносіцца да царкоўнага бюджэту і адносна цыфровых даных.

Калі-б бюджэт праваслаўнай царквы быў урэгуляваны на падставах правільнай прапорцыі ў параўнаньні да р.-каталіцкага касьцёлу, дык сума яго тагды выносіла-б 3.337.000; сучасны бюджэт выносіць толькі 1.695.980 зл. і, хоць у гэтай плошчы ня можна не заўважыць вялікага поступу (бо ў папярэдніх годах прапорцыя была значна меней адпаведная), але-ж і справядлівасьць і царкоўная патрэба вымагаюць ад нас упарадкаваньня гэтага бюджэту на падставах роўнаўпраўненя.

У кожным разе, якая-бы сума гэтага бюджэту была, ці малая, ці вялікая, маема права вымагаць ад ураду, каб гэты бюджэт быў выкананы згодна пастановы ўстаўадаўчых палатаў. Што-ж мы бачым? Практыка апошніх гадоў выясьніла, што ўрад не трымаецца прынятых парламантам крэдытаў і выдае на праваслаўную царкву суму шмат меншую ад тэй, якая вызначана бюджэтам. Адносна да р.-каталіцкага вызнаньня ўрад чыніць гэтага няможа, бо высокасьць гэтых выдаткаў замацавана канкардатам, і цераз гэта ўвесь цяжар гэтай бяспраўнай ашчаднасьці пераносіцца выключна на праваслаўную царкву. Дык вось прытачу цыфры.

У 1924 годзе: асыгнавана (пералічыўшы суму на злоты) 165.184 зл.; выдана 164.050 зл.; ня выдана 1.134 зл., г. з. 9 проц.; у 1925 годзе: асыгнавана 954.360 зл., выдана 266.950 зл., г. з. 28 проц.; у 1926 годзе (пяць кварталаў), хоць бюджэт ня быў прыняты парлямантам, але-ж у кожным разе выдаткі павінны былі тасавацца да нормы прэлімінаванага бюджэту. Што-ж мы бачым? Асыгнавана 1.927.560, акрамя 5-га кварталу, выдана 1.181.834; ня выдана 745.726 зл. г. з. 33 проц., акрамя пятага кварталу. З гэтага відаць, што ўсё тое, што мы тут пастановім, ёсьць зусім не актуальным. Гэтакаю „ашчаднасьць" ураду адносна праваслаўнай царквы можна было-б усправядлівіць або дэфіцытам у бюджэце агульна дзяржаўным, або нястачай патрэбаў ў гэтай царкве. Ні гэтага, ні іншага няма. 1926 годзе, як мы ведаем даходы дзяржавы выносілі 1.905·725, а выдаткі 1.852.000 зл., г. з. мелі мы ашчаднасьці 53 міл. зл. З гэтага відаць, што фінансавы стан дзяржавы не вымагаў гэтакіх бяспраўных адносінаў да бюджэту праваслаўнай царквы. А калі-б і вымагаў, дык урад павінен быў гэта спраўдзіць з гэтай трыбуны перад парлямантам. З другога боку маем столькі патрэбаў у праваслаўнай царкве, перадусім з прычыны адабраньня царкоўных будынкаў і маемасьці, што і ўсей асыгнаванай сумы далёка не хапіла-бы на ўсе тыя патрэбы.

Зьвернем увагу на справу адбудовы царквы. Царква ў Баранавічах будуецца ўжо пяць гадоў, а люднасьць тоўпіцца ў маленькае царкоўцы, трохі вялікшай за кёсак для содавай

# Інтэрпэляцыя № 33

**Беларускага Пасольскага Клюбу да п. міністра ўнутраных справаў у справе біцьця камандантам паліцыі селяніна Паўлюка Велікасельца, з вёскі Дабучын, Пружанскага павету.**

Дня 4 лютага 1927 г. камэндант пастарунку Дз. Пал. ў Дабучыне, Пружанскага павету, Бярнацкі, пазваўшы на пастарунак бяз ніякай прычыны 50-летняга селяніна з вёскі Дабучына Паўлюка Велікасельца пачаў дапрашваць, называючы яго камуністым і бандытам. Заклікавы на дапрос селянін пацьверджаець, што камэндант у гэтым часе быў п'яны. Робячы дапрос у Вялікасельца камэндант біў яго па галаве так, што дапрашваны абліўся крывёй і самлеў. Што было далей селянін ня помне. Калі Велікаселец ачуціўся, пачаў ён, як камэндант казаў пастарунковаму Рагальскаму, абмываць зазакрываўлены кажух Вялікасельца, а яму самаму сьпярша падайсьці да печы і абсушыць змочаны кажух, а потым пайсьці дамоў і прынясьці вечарам таго самага дня стрэльбу (карабін). Калі Велікаселец запярэчыў гэтаму, кажучы, што ніякага карабіну ня мае, камэндант сказаў „купі, але прынясі".

Факт гэты сьведчыць аб тым, што дзяржаўная паліцыя ня перастаець катаваць беларускую люднасьць пры дапросах. Сыстэма біцьця і катаваньня люднасьці на пастарунках паліцыі вядзецца паліцыяй заўсёды, а польскі ўрад дагэтуль не падняў ніякай барацьбы з гэтай сыстэмай. Бяручы пад увагу вышэйпаданае інтэрпэлянты пытаюцца п. Міністра:

1) Ці намерваецца нарэшце здушыць сыстэму біцьця людаасьці на пастарунках дзяржаўнай паліцыі?

2) Ці намерваецца павясьці сьледзтва ў справе біцьця селяніна Велікасельца і аддаць судовай уладзе камэнданта Бярнацкага?

Варшава, 1.III. 1927 г.

# НАВІНЫ.

— **Патаемны арышт б. рэдактара „Сялянскае Нівы"**. Два тыдні таму назад зьнік бяз ніякага сьледу б. рэдактар „Сялянскае Нівы" гр. Л. Міцька. Ніхто ня ведаў дзе дзеўся б. рэдактар, гаспадыня толькі заявіла, што аднэй раніцай зьявіўся да гр. Л. Міцькі нейкі чалавек у цывільнай вопратцы, пагаварыў з ім (гутарка была вельмі ажыўленая) і пасьля абое выйшлі разам, пры гэтым Л. Міцька выйшаў не пасьнедаўшы. Ад таго часу Л. Міцька не вярнуўся на сваю кватэру і гаспадыня нічога больш ня ведае.

Пасьля гэтага пачалося шуканьне б.-рэдактара. У палітычнай паліцыі нічога ня можна было даведацца, камісар ураду м. Вільні таксама нічога ня ведаў, тады зьвярнуліся да пасла Ярэміча, які ўзяўся шукаць рэдактара.

Дзякуючы асабістай інтэрвэнцыі сярод ваяводзкіх палітычных уладаў удалося даведацца, што беларускага рэдактара арыштавала крымінальная паліцыя і пасадзіла на Лукішкі. Арышт быў зроблены па загаду сьледаваццеля II рэв. за канфіскаваныя нумары „Сял. Нівы".

Крымінальная паліцыя пачынае арыштоўваць беларускіх рэдактараў. Добрыя парадкі!!

— **Асуд рэдактара.** Гр. Міх. Гэрмановіч, рэдактар беларускае газэты „Іскра", якая выходзіла ў 1925 годзе асуджаны на 10 месяцаў вастрогу.

— **Беларуская лекцыя.** У нядзелю 10 красавіка г. г. а 6 гадз. веч. у салі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры будзе прачытана лекцыя грам. Альбінам Стэповічам на тэму „Галоўныя дзейнікі грамадзкіх зьявішчаў".

— **З паседжаньня Рады Інстытуту.** На апошнім паседжаньні Рады Т-ва Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры між іншымі справамі была разгледжана справа зьмены статуту. Пастаноўлена сядзібу цэнтральнага ўраду таварыства перанесьці ў Вільню, а таксама павялічыць лік сяброў цэнтральнага ўраду да 7 асоб. Нававыбраны цэнтральны ўрад Інстытуту складаецца з такіх асоб: гр. А. Більдзюкевіч, гр. А. Бабянскі, сэн. В. Багдановіч, кс. пас. А. Станкевіч, сэн. А. Назарэўскі, гр. Э. Будзька і гр. С. Сьвістун.

— **Новая часопісь.** Надовячы вышла новая часопісь пад н. „Наша праўда". якая зьяўляецца наступніцай „Спраў", „Голасу" і інш.

— **Канфіскаты.** Камісар ураду на м. Вільню канфіскаваў беларускую аднадвёўку „Водклік", якая вышла замест луцкевічаўскіх „Справаў". Адказны рэдактар С. Татарын цягнецца да адказнасьці, а таксама канфіскаваны № 8 беларускае газэты „Narodny Zwon", за перадавіцу „Учора і сягоньня", якая абгаварвала школьныя і культурна-асьветныя справы і за зацемку „Да дзевятых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Літва і Латвія.

Паміж гэтымі дзяржавамі намячаецца саюз. Ужо адбыліся перагаворы паміж іх міністраў. Гэта надта не падабаецца Польшчы, якая траціць Латвію як прыяцеля...

### Сытыацыя ў Кітаі.

На падмогу кантонскай арміі, мае выступіць з 200.000 арміяй гэн. Фэнг-Чанг, які рыхтуецца ісьці на Пэкін з боку Манголіі. Сытуацыя ў Кітаі, якая вядзе да апанаваньня Кітаю радыкальнымі Кантонцамі, трывожыць буржуазны сьвет, а найболей Англію.

### На Балканах.

У Альбаніі ідзе ўнутраны нялад. Рэвалюцыянэры гатуюцца да паўстаньня, каб скінуць сучасны ўрад, які дагаворам з Італіяй, амаль-што скасаваў незалежнасьць Альбаніі.

Дзеля таго, што паўстанцаў падтрымлівае Югаславія, паміж ею і Італіяй паўстаў канфлікт. Каб зьліквідаваць канфлікт за справу ўзялася Англія.

### Прыгатаваньні ў справе разаружэньня.

У камісіі ў справе прыгатаваньня канфэрэнцыі на разаружэньню ідзе далейшая праца. Каб даць Радавай Расеі магчымасьць узяць удзел у канфэрэнцыі, дык прапазыцыя Расеі аб сабраньні гэтакай канфэрэнцыі па замежамі Швайцарыі прынята.

Расея са Швайцарыяй, як ведама, ня ладзіць, дык калі-б канфэрэнцыя вызначана была ў Швайцарыі — Расея ад удзелу цераз гэта сама адказалася-б.

# Ліст у Рэдакцыю.

Паважаны Пане Рэдактар!

Прашу надрукаваць у Вашай газэце наступнае: У № 22 (73) „Сялянскай Нівы" п. Квактун падаў карэспандэнцыю „падзел спадку", у якой абвяшчае, што па сьмерці адзінокага сьвяшчэньніка ў прыходзе Рабунь, Касьцянеўскай гміны, асталося вядома „як ад папа" досыць значна скарбу. Жывёлу і адзежу падзялілі айцы суседніх прыходаў за малітвы за душу нябошчыка. На бульбу ў ямах, сена і зярно назначылі цану, па якой трэба прадаваць, а грошы аддаваць Крывіцкаму благачыннаму.

У інтарэсах справядлівасьці лічу за свой абавязак высьвятліць справу, як яна ёсьць.

Праўда, першага студня г. г. памёр у сяле Рабуні адзінокі сьвяшчэньнік а. Лапацінскі. Па сьмерці-ж яго нічога не асталося, на першы пачатак прышлося пазычаць у людзей грошы, даць абед тым, хто капаў дол і іншым прысутным на хаўтурох. А тут яшчэ сталі прыходзіць крэдытары, у якіх нябошчык астаўся ў доўгу.

Можа хто і зьдзівіцца чаму гэта ў адзінокага чалавека нічога не асталося? А вось чаму: нябошчык ніколі ня меў звычаю пакідаць сабе ў запас грошы. То пасылаў ён сваім дзецям — бедным эмігрантам у Парыж, то пазычаў людзям без ніякіх расьпісак, або так раздаваў беднаце; а даўжнікі цяпер не пааддавалі. А калі ў самога не ставала, дык прыходзілася пазычаць у людзей, але па расьпісках. Нарэшце цяпер, каб зьвясьці канцы з канцамі прышлося ўсё прадаць: карову, сьвіней, благую старэнькую адзежку, яшчэ даваеннага часу (бо добрай ня было, нават бялізны добрай на сьмерць не аказалася), а бульбу прышлося прадаць і грошы аддаць у царкву за сьвечкі і на другія расходы пры хаўтурох. Прысутнае-ж духавенства ні воднай рэчы не скарыстала для сябе. Малітвы за душу саслужыўца нябошчыка — саракавуст разлажылі на ўсіх сьвяшчэннікаў у благачыніі бяз усякае платы.

Цяпер пытаюся — якую тэндэнцыю меў п. Квактун абвяшчаючы праз прэсу фальшывую зьвягу — быццам айцы духоўныя падзялілі спадкі паміж сабою за малітвы?

(Далей у пісьме гаворыцца аб тым, што за нязгодныя з праўдай весткі аўтар карэспандэнцыі можа быць пацягнуты да адказнасьці. Рэд.)

Даўгінаўскі благачынны

Пратаярэй *Мітрафан Шчансновіч.*

1927 г. сакавіка 21 дня, в. Княгініна.

Ад Рэдакцыі: Зьмяшчаючы гэтае пісьмо, лічым патрэбным выказаць сваё дапушчэньне, што аўтар карэспандэнцыі „Падзел спадку" ня меў ніякое благое тэндэнцыі проці духавенства, пасярэднім доказам гэтага можа быць хоцьбы карэспандэнцыя п. Квактуна зьмешчаная ў гэтым нумары. Як відаць карэспандэнцыя „Падзел спадку" была напісана ў добрай веры, на аснове мясцовых гутарак.

# „Родныя Гоні".

Надовячы вышла з друку першая кніжка месячніка літэратуры і культуры Заходняе Беларусі п. наз. „Родныя Гоні". Каб ацаніць гэтую часопісь трэба разгледзіць, што і як у ёй зьмешчана. Перадусім возьмем перадавіцу: „Да Грамадзянства".

Маем там такія сказы:

„Намаш чаго й казаць аб жыцьцю палітычным, усім ведамыя „свабоды" ягоныя...

„Заданьнем „Родных Гоняў" і ёсьць прычыніцца да развою гэтага „духовага паветра" — культуры беларускае. Пойдзем да свае мэты трымя дарогамі: 1) будзем старацца павялічыць людзёў, каторыя, даўшы ў месяц ня меней 10 зал., будуць сувыдаўцамі „Родных Гоняў"; 2) будзем пісаць у часопіс і 3) пашыраць яго. У гэтай трыякай рабоце і просім беларускае грамадзянства памагаць нам".

Далей ёсьць заклік да: Ліцьвіноў, Палякаў і Жыдоў, каб таксама памаглі.

Вось гэта і ёсьць амаль ня ўся перадавіца, як бачым, вельмі „літэратурнай" мовай напісана.

Зьмест часопісі складаюць літэратурныя творы і артыкулы. На першым месцы маем вершы шырока знанай песьняркі Н. Арсеньневай, далей: вершы А. Бартуля, апавяданьне „На парозе 1386 г.", „Антон Лявіцкі" (Ядвігін Ш.), „Аб годзе нараджэньня Фр. Скарыны", „Рэлігійная літэратура пабеларуску", „Аб культурнай працы", „Да пытаньня аб аснаўных прынцыпах навучаньня", „Зямельныя адносіны ў Беларусі і аграрная палітыка канца XIX ст.", „Захацела бабуленька ды пабагацеці" (народная песьня), „З беларускіх культурных арганізацыяў", „Культурныя навіны" і „Новыя культурныя часопісы".

Усё гэта зьмешчана на 48 старонках друку (васьмёркі) і апраўлена ў чырвоную вокладку. Як бачым, матэр'ялу даволі шмат, але нельга сказаць, каб для першага нумару ён быў зусім умела падабраны. Найбольш кідаецца ў вочы якраз вышэй паданая перадавіца. Нейк дзіўным выдаюцца гэныя словы: „прычыніцца да развою гэтага „духовага паветра", ды яшчэ дзіўней — гэныя „тры заданьні" часопісі.

Як гэта часопісь будзе павялічваць людзей, што дадуць па 10 злотых і што гэта мае супольнага з развоем „духовага паветра" — культуры беларускае?! Як гэта „будзем пісаць у часопіс, пашыраць яго"?! Хто гэта будзе пісаць у часопісь, ці гэта кожны, хто толькі дасьць 10 зл., ці гэта толькі рэдакцыя?! Недарэчнасьць стылю ўсіх трох „заданьняў" часопісі відавочна! Магчыма, аўтар хацеў выказаць нейкія важныя думкі, але не патрапіў, бо замала ці замнога „наўчоны".

Каб паказаць чытачом да чаго папсута ў часопісі беларуская мова, ніжэй падаем яшчэ адзін сказ зьмешчаны ўжо на апошняй старонцы „Родных Гоняў":

„Дзеля гэтых мэтаў „Бел. Дз." упорна ходаецца проці расейскага царызму і мае так-жа гаспадарскі й культурны адзьдзел, але гэтыя адзьдзелы, асабліва апошні, вельмі слабыя".

Гэты апошні сказ вельмі характэрызуе мову часопісі, якую ў найлепшым выпадку можна назваць бруковаю, але ніколі не літэратурную.

Дык вось як выглядае месячнік „літэратуры"!

*Рэцэнзар.*

# З жыцьця студэнтаў.

Многа сяброў зьвяртаецца да нас з просьбаю аб інфармацыі адносна арганізацыі беларускага студэнства. Ня маючы магчымасьці выдаваць сваю пэрыадычную часопісь, мы змушаны абмяжоўвацца кароткімі газэтнымі інфармацыямі адносна нашай дзеяльнасьці і арганізацыі. Беларускае студэнства арганізавана ў Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў (АБСА) з часоваю сялібай у Празе. Статут арганізацыі зацьверджаны чэскаю ўладаю вясною 1926 г. Аб'яднаньне ахопвае амаль што ўсе важнейшыя беларускія студэнскія арганізацыі. АБСА ёсьць вольным сябром Міжнароднае Студэнскае Конфэдэрацыі (CIE). Выканаўчы орган АБСА — прэзыдыум з пяці чалавек, склад якога ў свой час быў паданы сябром да агульнага ведама апрача сэкрэтара М. Ільяшэвіча, які заступіў выбыўшага са складу прэзыдыума М. Марнецкага. Пры АБСА ёсьць тры рэфэраты: міжнародных зносін, прэсавы і гаспадарчы. У сучасны момант прэзыдыумам вядзецца падгатаваўчая праца да агульнага ўсебеларускага студэнскага зьезду, які мае адбыцца ў канцы 1926-27 вуч. г. перад рымскаю конфэрэнцыяй CIE.

Адрэс АБСА: Praha II, Wenzihova 4, Sjednoceni Beloruskych Studentskych Organisaci (АБСА). Tchecoslovaque.

Прэзудыум.

